*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 1 (540) 3 СТУДЗЕНЯ 2002 г.**



# З Калядамі – Вас шаноўнае спадарства!

## Віншаванне ТБМ з Калядамі і Новым годам

*Паважаны спадар Трусаў.*
*Напярэдадні нараджэння Хрыстова і Новага 2002 года дазвольце павіншаваць Вас і супрацоўнікаў ТБМ з гэтымі святамі.*
*Сёння нашыя малітвы радасныя і перадсвяточныя. Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква моліцца, каб Гасподзь сагрэў цяплом на шыя дамы, умацаваў нашае здароўе, вылечыў нашыя спустошаныя душы. Няхай з Нараджэннем Хрыстовым у душы кожнага з нас народзіцца любоў і мір -царкоўны, нацыянальны і сямейны. У гэтыя перадсвяточныя дні Нараджэння Хрыстова сардэчна вітаю Вас, дарагія браты і сёстры з Вялікім святам і Новым 2002-ім годам. Праслаўляючы Нараджэнне Хрыстова, дзякуйма Яму за ўсе Яго Дабрадзеянні, за радасць і смутак.*
*Няхай Гасподзь будзе міласцівы да нас у выпрабаванні нашай веры і любові і пранясе каля нас чашу гневу Свайго за грахі і беззаконні нашыя.*
*Няхай дабраслаўленне Божае будзе з Вамі і супрацоўнікамі ТБМ.*
*Дабрыня Госпада Ісуса Хрыста няхай будзе з усімі Вамі.*
*Хрыстос нарадзіўся! Слаўма Яго!*

*Нараджэнне Хрыстова 2001-2002 г. Менск.*
***Кіраўнік справамі БАПЦ***
***Мітрафорны Протаіярэй Ян Спасюк.***



## ЮРЫЮ ГІЛЮ – 60 гадоў!

***Гіль Юрый (11.1.1942 г. в. Вашунова Докшыцкага р-на Віцебскай вобл.), гісторык, старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю, беларускі грамадскі дзеяч.***

Ю. Гіль нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Параф'янаўскай сярэдняй школы (1959) два гады працаваў у мясцовым калгасе "Чырвоны сцяг". У 1961-1964 гг. служыў у Савецкай Арміі. Вучыўся на гістарычным факультэце Менскага педагагічнага інстытута (1964-1968), пасля заканчэння якога быў настаўнікам гісторыі, дырэктарам васьмігадовай школы ў Докшыцкім р-не. Жывучы ў Менску, быў адказным сакратаром таварыства "Веды" Менскага р-на (1972-1975), інспектарам аддзелу кадраў сельгастэхнікі Менскага р-на, выхавацелем у інтэрнаце Менскага аб'яднанага авіяаддзела. У 1985-1988 г. г. працаваў рабочым, брыгадзірам будаўнікоў у Сібіры. З 1988 г. удзельнік беларускага нацыянальнага руху. Пэўны час узначальваў аддзяленне БНФ Менскага р-на. У 1989 г. пераехаў у Вільнюс, дзе працаваў на розных прадпрыемствах. Быў ініцыятарам стварэння ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага краю, да 1996 г. выконваў абавязкі адказнага сакратара таварыства, цяпер узначальвае яго. У бацькоўскай хаце на сваёй радзіме заснаваў гістарычна-этнаграфічны музей "Засцянковая хатка".

Ю. Гіль з'яўляецца прадстаўніком у органах мясцовай літоўскай улады, актыўна займаецца культурна-грамадскай дзейнасцю, плённа працуе ў галіне адраджэння і захавання беларускай культуры на Віленшчыне.

Сакратарыят ТБМ рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць спадара Юрыя з 60-годдзем і жадаюць яму доўгага веку і далейшага плёну ў працы на карысць Беларусі.

# Адкрыты ліст

**Дарагія землякі!**

Лічаныя гадзіны аддзяляюць нас ад надыходзячага 2002 года. На кожным значным адрэзку часу прынята падводзіць вынікі. Адыходзячы 2001 год пакінуў у нашай памяці прэзідэнцкую выбарчую кампанію. Па-сапраўднаму ацаніць яе вынікі можна будзе толькі праз пэўны час. Хоць ужо сёння зразумела, што мы разам імкнуліся зрабіць усё магчымае, каб жыццё беларускага народа зрабілася лепшым. Я вельмі ўдзячны Вам за Вашу падтрымку і веру, што ўсё задуманае намі абавязкова будзе рэалізавана.

Звяртаючыся да ўсіх сваіх паплечнікаў і ўдзельнікаў прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, я хачу папрасіць у Вас прабачэння. За тое, што многія нашы з Вамі мары не спраўдзіліся. Тое, што спачатку здавалася нам простым і лёгкім аказалася надзвычай складаным. Я прашу прабачэння за тое, што не апраўдаў Вашы надзеі, надзеі людзей, якія верылі ў мяне, верылі ў тое, што мы адразу зможам зрабіць крок у светлую і цудоўную будучыню. Я таксама шчыра ў гэта веры. Я шчыра хацеў, каб людзям жылося лепей. І, калі я рашаўся балатавацца на пасаду прэзідэнта, я не бачыў больш важнай задачы, чым дабрабыт людзей. Пераканаты, што нішто не знікае бясследна. Упэўнены, што, памножыўшы наш досвед, захаваўшы ўсё самае лепшае, з надыходам новага 2002 года мы будзем яшчэ больш актыўна працаваць над рэалізацыяй нашых планаў.

Новы год – гэта добрае і шчаслівае свята. З прыходам новага года мы звязваем самыя светлыя чаканні і надзеі. Якой мы хочам бачыць Беларусь у новым 2002 годзе? Перад усім, дэмакратычнай дзяржавай, здольнай забяспечыць усім грамадзянскія, палітычныя, эканамічныя свабоды, стварыць умовы для працвітання і шчаслівага жыцця ўсіх людзей і кожнага паасобку. Я шчыра веру, што ў недалёкай будучыні ў нашым "Агульным Доме – Беларусі" надыдзе працвітанне – у Новы год жа збываюцца мары.

Жадаю ўсім Вам здароўя і шчасця! Давайце ў Новы год усміхнемся нашым родным, блізкім і сябрам. Пажадаем адзін аднаму цяпла і дабрабыту. І падымаючы келіхі, прапануем тост за каханне і лепшую будучыню.

Шчыра жадаю Вам ажыццяўлення ўсіх Вашых надзей!

**З Новым 2002 годам!**
**Сямён Домаш.**

## Сустрэча ў Навагрудку

21 снежня, напярэдадні дня народзінаў нашага славутага земляка, Адама Міцкевіча. Наваградак наведалі Старшыня ТБМ Алег Трусаў, намеснік старшыні Сяржук Кручкоў і вядомы беларускі пісьменнік і журналіст Кастусь Тарасаў. Сустрэча з грамадскасцю горада адбылася за ўтульнай зале музея Адама Міцкевіча. На ёй прысутнічалі супрацоўнікі двух навагрудскіх музеяў, раённай і гарадской бібліятэкі, загадчык раённага аддзела культуры, сябры ТБМ з мясцовай суполкі.

Перад прысутнымі выступілі Кастусь Тарасаў і Алег Трусаў. Яны расказалі аб сваіх адносінах да літаратурнай спадчыны Адама Міцкевіча, а таксама прэзентавалі свае кнігі, якія выйшлі ў 2001 годзе. Пры гэтым асобы акцэнт быў зроблены на старонках гэтых выданняў, прысвечаных гісторыі Наваградка. Сяржук Кручкоў распавёў пра дзейнасць семінара "Я магу жыць лепей". Абодва навагрудскія музеі і мясцовая бібліятэка атрымалі ад ТБМ бібліятэчкі беларускіх выданняў, а таксама кнігі К. Тарасава і А.Трусава з іх аўтографамі.

***Наш. кар.***

## Навуковы семінар у Менску

20 снежня 2001 г. у памяшканні Дома літаратараў Нацыянальна навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны правёў навукова-практычны семінар "Хрысціянская духоўнасць і сучаснае беларускае грамацтва". У ім узялі ўдзел вядомыя беларускія навукоўцы, пісьменнікі, прадстаўнікі ўсіх хрысціянскіх канфесій, ураду Беларусі, сродкаў масавай інфармацыі.

Семінар адбываўся па-беларуску і закранаў розныя пытанні беларускай духоўнасці і тога крызісу, у якія яна зараз знаходзіцца. Сярод запрошаных быў і Старшыня ТБМ Алег Трусаў. Ён закрануў пытанні аб распаўсюджванні сярод вучняў і студэнтаў хрысціянскай літаратуры ў тым ліку найперш Біблії на беларускай мове. А. Трусаў таксама прапанаваў зрабіць будучы дзяржаўны тэлеканал БТ-2 культурна-асветніцкі, хрысціянскі па сваёй сутнасці, які будзе працаваць па-беларуску.

***Н. К.***

# СПРАВАЗДАЧА

## аб дзейнасці ТБМ Мазырскай гарадской арганізацыі за 2001 год

Зыходзячы з асноўных мэт дзейнасці ТБМ, адпаведна Статуту Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны – аднаўлення ў грамадстве стаўлення да роднай мовы як да нацыянальнай святыні, пашырэння яе ўжытку па ўсіх сферах жыцця Рэспублікі Беларусь, усебаковага развіцця і захавання яе чысціні і самабытнасці, садзейнічання забеспячэнню ёй статуса адзінай дзяржаўнай мовы, трэба адзначыць, што дзейнасць сяброў ТБМ г. Мазыра можна кваліфікаваць як "здавальняльная" з агаворкай, праўда...

Справа ў тым, што рэалізоўваліся асноўныя мэты ТБМ, дзякуючы актыўнай дзейнасці кіраўніцтва Мазырскай суполкі. Так што словы гарадская арганізацыя" на гэтым этапе застаецца толькі на паперы. Нельга не абнародаваць абыякавасць, раўнадушша асобных (іх большасць з ліку педагогаў) сяброў, якім штомесячна даводзіцца напамінаць наконт падпіскі на газету "Наша слова", газеты, без якой немагчыма ўявіць сабе жыццё Таварыства. Па-другое, многія сябры не плацяць складкі за 2001 год.

Нягледзячы на гэтыя недахопы, мы імкнуліся ахапіць падпіскай сумленных людзей, якія не з'яўляюцца сябрамі ТБМ Мазырскай суполкі, паколькі жывуць і працуюць у другіх гарадах Гомельскай вобласці, аднак яны і раней выпісвалі і зноў падпісаліся на першы квартал 2002 года: Джумава І., Лявонцьева Л.Я., Радзькова А.А., Балдуева Л.І., Бабушкіна Н.І. (Буда-Кашалёўскі раён), Мельнікава Л.А., Берлова Н., Гулевіч А., Сопік С., Мартыненка І., Мішкіна В., Сац Г., Старцітарава Т. (горад Гомель), Суднікава А.В. (горад Жлобін), Шчэрбіна В. (горад Калінкавічы), Еўжык Ю.А., Вага Дзмітры, Горбун Н., Бараноўская В., Ганчар І., Абрамовіч Ж. (горад Мазыр). Сябры ТБМ Мазырскай суполкі Пархоменка А., Скрэчка А.В., Мейлах Я., Піскун Л. выпісалі "Наша слова" на паўгоддзе.

У 2001 годзе нам удалося рашыць адну з найскладанейшых задач, вынік якой прыемна гучыць у маштабах Рэспублікі Беларусь у Мазыры на базе агульнаадукацыйнай школы № 14 адкрыты беларускамоўны падрыхтоўчы клас. У 2000 годзе дзейнічалі "сваімі сіламі" – не атрымалася. У 2001 годзе каардынавалі сваю дзейнасць праз рэспубліканскія кіраўнічыя органы ТБМ (спд. Алег Трусаў). Справа рушыла з месца.

З мэтай прывіцця любові да роднай мовы, пашырэння яе распаўсюджвання мы звярнуліся да студэнцкай моладзі з пытаннем: "Чаму беларус з беларусам не размаўляе па-беларуску". Разважанні чытачоў газеты "Наша слова" мы даслалі ў рэдакцыю. Больш таго, студэнты і па сённяшні дзень нясуць свае сачыненні разам з квітанцыяй на падпіску газеты.

На цэнтральны рахунак ТБМ спадар Пархоменка Алесь ахвяраваў 50 тысяч беларускіх рублёў: з іх 10 і 15 мы дасылалі раней, 5 тысяч дашлём на днях, на астатнія аформім падпіску на газету "Наша слова".

Сябры Мазырскай суполкі актыўна збіралі подпісы за адкрыццё Беларускага нацыянальнага універсітэта. Трэба прызнаць, што выкладчыкі кафедры пачатковага навучання, у тым ліку і "рускамоўныя", усе без выключэння дружна паставілі свой подпіс за адкрыццё Беларускага нацыянальнага універсітэта.

Многія з сяброў 14 кастрычніка прысутнічалі на сустрэчы з вядомымі беларускімі пісьменнікамі Уладзімірам Арловым і Змітрам Бартосікам.

На наш погляд, сяброўскія складкі збіраць адзін раз за год не дае карысці. Можна паспрабаваць штомесячна збіраць складкі па ведамасці, а на рахунак ТБМ дасылаць штоквартальна. Па 100 рублёў – гэта сімвалічна" атрымаецца, а дасць больш карысці.

*Старшыня ТБМ Мазырскай гарадской арганізацыі Людміла Піскун.*

## Віншаванні ТБМ

* * *

*Шаноўныя сябры!*
*Віншуем Вас са святамі - Новым годам і Калядамі!*
*Шадаем шчасця і дабра,*
*Ды дабрабыту да двара,*
*Навіны добрыя ад нас*
*Няхай прыемна дзівяць Вас!*
*БАРЦ.*

* * *

*Паважаныя сябры!*
*Віншуем усіх з Калядамі!*
*Няхай Новы год*
*прынясе ў Вашыя сем'і*
*шчасце, дабрабыт і*
*стабільнасць.*
*Жыве Беларусь!*
*Шклоўская суполка ТБМ імя Ф. Скарыны.*

* * *

*Усіх сяброў калег і партнёраў віншуе Беларуская асацыяцыя журналістаў.*

## Маларытскія калядоўшчыкі

Прыгожа івідовішчна праходзіць вясёлы абрад Калядаў у гэтыя дні ў вёсцы Пажэжын Маларыцкага раёна.

**Фота Рамана Кабяка, БелТА.**



# Французскі погляд на беларускую мову

*Міжнародная асацыяцыя беларусістаў была створана ў 1991 годзе. За гэты час пад яе апякунствам выдадзена 16 навуковых зборнікаў "Беларусіка", штомесяц выходзіць бюлетэнь "Кантакты і дыялогі", праведзена звыш 40 канферэнцый і "круглых сталоў". Сёння сябры грамадскага аб'яднання МАБ (усяго каля 650 асобаў) ёсць у 24 краінах свету.*

*Летась у сталіцы Беларусі адбыўся III Міжнародны кангрэс беларусістаў "Беларусь і сусветная супольнасць: узаемадзеянне культур (да 2000-годдзя хрысціянства)". Да арганізацыі кангрэса спрычыніліся Міністэрства адукацыі, Міністэрства замежных спраў, Міністэрства культуры, Нацыянальная Акадэмія навук, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны.*

*На кангрэсе выступілі самыя розныя дакладчыкі: беларускія вучоныя, дактары, прафесары, акадэмікі, кандыдаты навук, магістры, біскупы, навуковыя супрацоўнікі, пісьменнікі, паэты, мастакі, перакладчыкі, выкладчыкі, настаўнікі, рэдактары часопісаў і газет, журналісты, аспіранты, бібліятэкары і іншыя, а таксама інтэлігентная эліта далёкага і бліжэйшага замежжа.*

*Удзельнікі кангрэса наведалі Цэнтр імя Францішка скарыны і іншыя ўстановы, паглядзелі дакументальныя фільмы, створаныя рэжысёрам Сяргеем Гайдуком, - "Запавет Еўфрасінні" (па сцэнарыі Уладзіміра Арлова), "Востраў забытых сноў" (па сцэнарыі Наталлі Фальцовай), "Рух зямлі" (па сцэнарыі этнамузыколага Зінаіды Мажэйкі).*

*На секцыі мовазнаўства "Сацыялінгвістыка" выступіў супрацоўнік Міністэрства адукацыі Францыі Жан П'ер Жанто з паведамленнем "Статыстычны падыход да вывучэння сацыялінгвістычнай сітуацыі ў г. Мінску", заснаваным на працах, праведзеных у парыжскім універсітэце.*

*У Сарбоны пад кіраўніцтвам Л.-Ж. Кальве. Удзельнікі кангрэса з выключнай увагай і зацікаўленасцю аднесліся да гэтага паведамлення.*

*Прапануем чытачам "Нашага слова" асноўныя тэзісы выступлення супрацоўніка Міністэрства адукацыі Францыі Жана П'ера Жанто.*

**Уступ.**

Гэтае паведамленне грунтуецца на работах, праведзеных у рамках сацыялінгвістычнага даследвання, абароненага пры падтрымцы парыжскага універсітэта У Сарбанны пад кіраўніцтвам Л. -Ж. Кальвэ. Геаграфічныя рамкі даследвання – горад Менск, перыяд даследавання - 1994-1998 гады.

Генеральнае даследванне сацыя-лінгвістычнай сітуацыі ў Беларусі факусавала сваю ўвагу галоўным чынам на двух аспектах: наяўных статыстычных звестак за гэты перыяд, архівах камуністычнай партыі, якія тычацца галасавання па закону аб мовах і выніках анкетнага апытання, праведзенага ў 1998 годзе сярод прыкладна 4 тысяч сямей, якія маюць школьнікаў, што вучацца ў Менску. Вынікі апытання прадстаўлены ў гэтым паведамленні.

Вывучэнне вынікаў апытання дазволіла высветліць сувязь паміж сацыялагічнымі характарыстыкамі, характарыстыкамі бацькоў і іх лінгвістычным выбарам, а таксама высветліць сацыялагічныя і іншыя фактары, што ўплываюць на выбар мовы навучання. Удалося вызначыць, як сем'і ўспрымаюць некаторыя лінгвістычныя праблемы і фармуюць сваё ўяўленне пра тое, на якой мове павінны навучацца іх дзеці.

**Канцэптуальныя рамкі.**

Многія аўтары падкрэсліваюць важнасць школы, як паказчыка лінгвістычнай палітыкі краіны. Так Макей і Сігюял пісалі: "Выбар лінгвістычных мэтаў адукацыі павінен залежаць і дзейнічаць заадно з лінгвістычнай палітыкай. Галоўным чынам гэта палітычнае рашэнне, якое з'яўляецца адным з галоўных яе праяўленняў, будучы звязаным з пытаннямі лінгвістычнай і культурнай палітыкі краіны".

Вывучэнне дэбатаў, якія разгарнуліся ў беларускім парламенце падчас галасавання па Закону аб мовах (у студзені 1990 года), умацавала нас у меркаванні, што ў Беларусі, як для ўраду, так і для сямей пытанне аб мове навучання з'яўляецца важным і нават галоўным.

Такім чынам, лінгвістычная палітыка ў школе з'яўляецца прадметам нашага вывучэння.

**Беларускі выпадак.**

Беларускі выпадак асабліва цікавы па двух прычынах.

Па-першае, у сувязі з адпаведным жаданнем узяць у рукі ўладу, узнікшую на лінгвістычнай базе. Па крайней меры, за апошнія гады адбыліся дзве вялікія змены ў лінгвістычнай палітыцы.

Па-другое, Беларусь з'яўляецца прыкладам краіны, у якой можна назіраць выпадак барацьбы за прадаўжэння жыцця ў сферы самага звычайнага выкарыстання не мовы этнічнай меншасці, а мовы этнічнай большасці – і гэта дзякуючы (ці па прычыне) тым заканадаўчым рамкам, якія лічацца з першай мовай.

Анкеты паказалі, што ў агуле ў Менску 82,5% сямей адносяца станоўча (ці вельмі станоўча) да выкладання на роўных абедзвюх моваў. У большасці сваёй іх дзеці адначасова вывучалі "мову хлеба" і "мову сэрца". Але ў сучасных умовах большая частка аддае перавагу "мове хлеба".

**Замест заключэння.**

Складваецца ўражанне, што беларускія бацькі прызнаюць адпаведную важнасць вывучэння іх дзецьмі беларускай мовы. Здаецца, што ў сярэднім маладыя людзі лепш валодаюць беларускай, чым іх бацькі. Беларуская мова ўспрымаецца беларусамі, як частка іх ідэнтычнасці. Затое руская ўспрымаецца, як утылітарная мова зносінаў.

У больш ці менш блізкай будычыні (у залежнасці ад палітычнага развіцця і ад уплыву бацькоў) руская можа скласці канкурэнцыю англійская, як мова міжнацыянальных зносінаў. Са свайго боку беларуская мова магла б ажыццяўляць праз рускую сваю сапраўдную функцыю. Улічваючы колькасць асобаў "апатычных" (у сэнсе каталонскай тэорыі), жаданне бела-руска-англійскага трохмоўя, як ідэальнай прамежкавай сітуацыі, існуе і можа павялічвацца.

Тым не менш галоўная выснова даследвання заключаецца ў наступным. ***Беларуская мова не ідзе па шляху знікнення, нават калі яе становішча можна лічыць сёння складаным. Яна здаецца закрытай мовай, але прадстаўлена на галоўным месцы ў лінгвістычнай свядомасці беларусаў.*** Аднак цяжка ўявіць, што такая бязвыхадная сітуацыя будзе прадаўжацца бясконца доўга. Такім чынам, у большай меры будучыня беларускай мовы будзе залежаць ад лінгвістычнай палітыкі, г.зн. свабоднай палітыкі ў вобласці выкладання нацыянальных моваў. Як паказала лінгвістычная гісторыя Беларусі, гэта прыводзіць да адставання больш слабой мовы, таму можа сур'ёзна абцяжыць развіццё беларускай мовы.

***Такім чынам, умовы для пазітыўнага развіцця беларускай мовы існуюць.*** Яно магчымае, уключаючы і штодзённае яе ўжыванне. Але праўда і тое, што беларуская мова павінна ўсяляк падтрымлівацца дабраахвотнай лінгвістычнай палітыкай.

***Падрыхтавала да друку Тамара Фаменка, часопіс "Беларусь".***

# Паспяховы дэбют

## Фестываль беларускай песні ў Клайпедзе

***Не гледзячы на хаўтурную атмасферу амерыканскай трагедыі, многія краіны свету адзначылі ДНІ МОВЫ І КУЛЬТУРЫ. Не была выняткам і Летува. У Клайпедзе таксама адбыла-ся, запланаваная раней двайная імпрэза: свята мовы і кнігі, спалучанае з ФЕСТЫВАЛЕМ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ і пачаткам дзейнасці беларускай суполкі "Крыніца".***

***Перадаём рэпартаж з гэтай падзеі – паэта і журналіста Андрэя Чэмера.***

У вялікай зале Клайпедскага Універсітэта яшчэ было пуста. Аднак я, аглядаючы прасторны будынак, пачуў здалёк музыку. То заціхаў, то грымеў фартэпіян. Музыкальным вухам я адразу ўлавіў гукі выдатнага інструмента і майстэрскую руку таленавітага музыкі. Падыйшоў да канцэртных дзвярэй, паціхеньку іх адчыніў і амаль анямеў са здзіўлення.

На подыюм сцэны стаяў арыгінальны, бялюсенькі "Станвэй", а іграў натхнёны... дарадца беларускай амбасады, прафесар Скараходаў!

Зачыніўшы паціхеньку дзьверы, я спыніўся, зачараваны ўнікальнымі гукамі мелодый Баха, Шапэна, Шуберта, Бетховена... Цудоўны інструмент грымеў мажорнымі акордамі сусветных майстроў, то ліўся струменчыкамі родных душы лірычнымі мелодыямі Ханка, Агінскага, Глінкі...

Нажаль, незадоўга з'явіліся артысты прыездных ансамбляў, са сваімі інструментамі (на кароткую рэпетыцыю) і "STANWEI" замоўк. Мне толькі засталося шчыра падзякаваць дру Скараходаву за нечаканую асалоду.

Хутка зала (на трыста асобаў) – пачала запаўняцца. З'явіліся прадстаўнікі мясцовых уладаў, з мэрам горада на чале, пасол РБ – Уладзімір Гіляравіч Гаркун і кіраўніцтва нова-зарэгістраванай суполкі "Крыніца". Зала запоўнілася, на сцэну, пад гучныя апладысменты, выйшаў хор віленскай "Сябрыны" з кіраўнічкай (і салісткай) В. Кавальчук. Урачыстасьць распачалася гімнам і кароткай прамовай прэзідэнта Згуртавання беларускіх суполак Летувы – Леаніда Мурашкі.

Прывітаўшы прадстаўнікоў улады і гасцей, а таксама лічных удзельнікаў Фестывалю, заслужаны артыст падкрэсліў, што не гледзячы на спробы варожых раскольніцкіх элементаў, адраджэнская дзейнасць беларусаў Летувы не толькі ня спыняецца, але выразна пашыраецца. Сёння ўжо да Згуртавання належыць 15 суполак, дабавілася Клайпеда і Панявежыс. Па прыкладу Віленскай "Сябрыны", праяўляюць немалую актыўнасць і іншыя, асабліва ў музычнай і наогул культурнай галіне, чаго доказам могуць быць і рэгулярна наладжаныя Фестывалі беларускай песні і танцу.

Цёпла прывітаны запоўненай залай хор "Сябрына" ўдала распачаў праграму ў адмаладжаным часткова складзе ансамбля. Ён праявіў выразны рост мастацкага ўзроўню. Выразней і мацней загучалі нацыянальныя асаблівасці беларускай музыкі і песні. Удала падабраныя касцюмы павялічвалі эфект. Меладыйнасць і беззаганная гарманізацыя песень, з дабаўкай гумару, незаганная сугучнасць, з акампаніментам баяна, адразу стварылі цёплы, калі не сказаць энтузіястычны настрой.

Бурнымі апладысментамі сустрэла зала невялікі, але добра падрыхтаваны мясцовы ансамбль "Крыніцы". Сціплая, але густоўная касцюмерыя і добрая, выдатная падрыхтоўка песень і танцу выклікалі бурнае захапленне публікі, - усе мы шчыра цешыліся ўдалым дэбютам маладога ансамбля. Тым больш, што музыкальная частка (акампанімент) таксама была на добрым узроўні.

Асабліва спадабалася публіцы мелодыя і арыгінальнасьць новага для нас танцу "Прытупы", выканага таксама бездакорна. Павялічвалі ўражанне і выдатна падабраныя касцюмы. Пад бурныя воплескі ўступілі клайпедчане сцэну заслужанаму артысту, - опернаму салітсу Леаніду Мурашку.

Яго артыстычна выконваныя нумары заўсёды выклікалі і выклікаюць гарачую рэакцыю публікі. Так было і гэтым разам. Яго чысты, громападобны бас ("Нёман" і "Чамуж мне ня пець") і гэтым разам закончыў выступленне авацыі і доўга не сціхалымі воплескамі.

Здавалася, што пасьля гэтага энтузіязму бледна будуць выглядаць наступныя выступленні. Аднак атрымалася іначай. На сцэну вышла, узначаленая таленавітай скрыпачкай Святланай Антанян, - вісагінская "ШЧАРА", Дзявочы хор, у вельмі прыгожых нацыянальных касцюмах, адразу ж зачараваў публіку. Цудоўныя гукі скрыпкі майстэрскі зліваліся з народнай харавой песняй, ствараючы глыбока эмацыянальную сімфонію, на якую не магло не адазвацца ніводнае чулае сэрца.

У параўнанні з папярэднімі фестывалямі музыкі і песні, "Шчара" паказала значны, вачавідны рост, так у незаганнай гармалізацыіі, як і дынаміцы і рэдкаснай сугучнасьці галасоў. Так песні, як і танцы, прыпеўкі выклікалі заслужана буйную, энтузіястычную рэакцыю запоўненай залі.

А нашы сэрцы (арганізатараў і спонсараў) шчыра радаваліся годнай прэзентацыяй нашай роднай культуры і мастацкага ўзроўню выступленняў.

Іншы характар мела праграма таксама вісагінскага ансамблю "КРОК". Мяшаны хор, таночныя і сольныя намяры гучалі іначай. Іншы характар: больш дынамікі, разнастайнасці і фальклёрных элементаў. Высокі мастацкі узровень (у тым ліку асобных інструментаў, - баяна, цымбалаў, народнасць і дынаміка так песень, як і танцаў падкрэслівалі сколькі ініцыятывы і працы ўложана, каб дабіцца дастойнага, любой сцэны узроўню.

Каб утрымліваць добры настрой залі (пры двухгадзіннай праграме!), зноў на сцэне з'явіліся салісты. Гэтым разам побач сп. Мурашкі выйшла менш знаная гледачам – Валя Кавальчук. З высокім майстэрствам была выкананая сцэнка "Ой калі памрэш ты, мой дзядок". Як гаворыцца, узровень выканання быў вышэй крытыкі. Такую бурную рэакцыю, захаплення рэдка можна бачыць на сцэне. Доўга не канчаліся бурныя воплескі.

Асобай увагі заслугоўвае кіраўнічка хору "Сябрына" (Вільнюс) – Валянціна Кавальчук. Яе рэдкі голас і выдатнае пачуццё музыкі даюць шансы дасягнуць вяршыняў мастацкага выканання. Прыкладам (і доказам гэтага) можа быць яе апошняе выступленне з задушэўнай, лірычнай песняй.

Рэдкі выпадак, калі (на фестывалі!) сціхаюць не толькі воплескі, уся рознаколерная зала не толькі заціхае, але замірае пад уплывам чараў самароднага таленту. Слухаючы яе песню душа адрывалася ад зямлі, ад усіх клопатаў і перажыванняў, цудоўны голас запаланяў усю душу, узносіў нас на небывалыя высоты, тварыўся нейкі цуд. Скончылася песня, а зала захоўвала абсалютную цішыню. А тады выбух апладысментаў і крыкаў захаплення! Так, як гэта здаралася пасля непаўторных выступленняў векапомнай Русланавай.

Мімаволі наплывае жаданне: даць бы ёй адпаведную музычную асвету!... Антрактаў няма, канцэрт трывае роўна дзве гадзіны, без перапынку.

На сцэну выходзіць хор дзяўчынак з Друскенік. Усе спявачкі з мясцовай школы. Хор "СПАДЧЫНА" асаблівы. Энтузіястка харавой песні – сп. Маргарыта Каліновіч дабілася сыстэматычнай і на рэдкасць патрабавальнай працай бясспрэчна высокіх вынікаў. Гарманізацыя, сугалоснасць і рэдкаснае выкананне музычных напеваў кожнай мелодыі здзіўляюць слухача, тым больш у выкананні юных (амаль дзіцячых) харыстаў. Зразумела, што за ўдалыя выступленні ў сваім краі і за мяжой, "Спадчына" атрымлівала узнагароды і граматы. І гэтым разам ансамблю сабраў доўгатрывалыя, гучныя воплескі.

Заключным нумарам Фестывалю было выступленне беларускага мяшанага ансамблю з гор. Ліды. Гэта быў найбагацейшы па разнаякасці і дынамічнасьці ансамбль, які, як кажуць "не падкачаў" і апраўдаў надзеі перапоўненай залы.

Хоць гэты музычны гурт цяжка параўнаць (па ўзроўню) з "Белымі Росамі", але і адмовіць яму некага майстэрства таксама немагчыма. Адносна невялікая колькасьць артыстаў змяншала яго поўныя магчымасці (усяго 12 асобаў), аднак інструментальная насычанасьць (бас, цымбалы, баян, скрыпкі) і маладая энэргія таночных нумароў перакрывалі сваёй дынамікай, маладой энэргіяй і гумарыстычнымі момантамі. У цэлым гэта быў парад беларускай (у значнай меры фальклёрнай) музыкі, песні і танцу.

Заключным было выступленне пасла Рэспублікі Беларусь – Уладзіміра Гіляравіча Гаркуна, які падзякаваў прысутным гасцям і ўладам за супрацоўніцтва і дапамогу. Таксама падкрэсліў, што культурныя сувязі і сустрэчы бываюць больш уплывовымі, чым палітычныя, ці афіцыйныя мерапрыемствы. Найлепшыя эфекты даюць беспасрэдныя сустрэчы народу з народам. Тым больш у так цёплай і спагаднай атмасферы.

Пасля заканчэння фестывалю ў гутарцы з журналістам Ёзасам Лаўрынавічусам я заўважыў:

-- Добра што не прышлося адзначаць сёння найлепшых, - усе калектывы паказалі выразны рост і ўзровень годны любой, хоць бы і сталічнай сцэны

-- Лічу, што не гэта важна, хто лепшы, а хто слабейшы. Галоўнае удзел непрафесійных ансамбляў, кантакты і ўзбагачванне нашых народных (не прафесійных) стасункаў.

Развітваючыся, арганізатары фестывалю шчыра падзякавалі спонсараў мерапрыемства. Асабліва рэктару Клайпедскага універсітэта, дырэктару Літоўска-французскай транспартнай кампаніі і дырэктару "Беларускай нафты".

Таксама падзякавалі паслу Гаркуну і працаўнікам пасольства, якія шмат працы ўлажылі ў арганізацыю і рэалізацыю так важнага і патрэбнага мерапрыемства.

Вялікі ім дзякуй!

***А. Чэмер,***
***Клайпеда-Вільня.***

# Царкве 300 гадоў

Міхайлаўская царква вёскі Чэрск Берасцейскага раёна была заснавана ў 1701 годзе. Зараз гэта гістарычна-культурны помнік. Вакол яе вырасла вёска, у якой зараз ёсць школа аддзяленне сувязі, ФАП.

**На здымку:** урачыстасць з нагоды 300-годдзя царквы.

**Фота Рамана Кабяка, БелТА.**



**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 3. 01. 2002 г.
Наклад 4000 асобнікаў. Замова № 6.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
***Кошт у розніцу:*** 120 руб.